І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Снежань 2011
Інфармацыйна-забаўляльны бюлэтэнь



## Lesley Knife: «Чакайце сто адсоткаў Gods Tower!»



# Lesley Knife: «Чакайце сто адсоткаў Gods Tower!»




***Мусіць няма сярод гомельскіх металістаў такога чалавека, хто б застаўся раўнадушным пры ўзгадванні Gods Tower (Вежа Багоў). У 90-я гады іх "боскі" pagan metal дасягаў сусветных маштабаў. І вось, 14 кастрычніка, нарэшце, гурт прэзентуе ў Гомелі свой першы (пасля доўгатэрміновага перапынку) альбом "Steel says last".***

Напярэдадні такой падзеі мы вырашылі пагаманіць з нязменным вакалістам гурта Уладзіславам Наважылавым (Lesley Knife).

Марыся Тульжанкова: Прывітанне! Можаш адказаць на пару маіх пытанняў?

Lesley Knife: То я зраблю зь вялікай радасьцю - ў гэтым годзе гэта будзе маё першае інтэрвію на роднае мове!

Марыся: Калі я правільна разумею, ты стаў ініцыятарам узнаўлення Gods Tower. Што стала падставай для такога адказнага кроку?

Lesley: Не, ты не зусім пэўна зынфармавана. Працэс адраджэньня спачатку йшоў без майго ўдзелу. Ініцыятарам стаў Зьміцер Аўчыньнікаў - ён зрабіў усю першапачатковую працу, мая роля была толькі абвесьціць аб адбыўшымся факце. Я спачатку наогул меў аб рэюньёне адны скрозь сумневы. Толькі ў мінулую восень я канчаткова даў праэкту веры. А падставай для гэтага асобна для мяне стала тое, што я больш у аніводным праэкце сабе ўтульна не адчуваў. Толькі тут.

Марыся: Па шчырасці , сумнёвы былі і ў нас.

Lesley: (пасміхаецца)

Марыся: Адраджэнне легендарнага(не пабаюся гэтага слова) гурта стала значнай падзеяй у музычным жыцці не толькі Гомеля, але і усёй Беларусі. Ці не баішся асабіста ты крытычных позіркаў і заўзятых ацэнак. Вядома, новы Gods Tower будуць параўноўваць са старым.

Lesley: Ды нічога я не баюся. Хай ламаюць дзіды. Я баюся толькі таго, што Беларусь губерняй стане.

Марыся: То ўзаемна. А чаго чакаць слухачам ад новага альбому?

Lesley: Як я заўжды ў такіх выпадках адказваў - чакайце сто адсоткаў Gods Tower, можа болей, але ніяк не меней! Чакайце беларускі метал!

Марыся: Абнадзейвае. А няўжо нічога не змянілася за час творчай неактыўнасці гурта?

Lesley: Ну, гэта ўжо вам вырашаць - зьмянілася што альбо не. Мяркую - калі й зьмянілася дык у лепшы правы бок!

Марыся: Ок. Яшчэ пара папсовых пытанняў, з твайго дазвалення.

Найбольш мяне цікавіць ваш выбар мовы. Чаму англійская, не беларуская?

Lesley: Бо хэві метал. Мы

заўжды па-ангельску сьпявалі.

Марыся: А ты нешта спрабаваў запісаць па-беларуску?

Lesley: У мяне быў праэкт Нескароны з Ігарам Палонікам з Dragonflame і зараз у Dis Tortion мы плянуем зрабіць пару рэчаў па-беларуску

Будзе абавязкова...

Марыся: Будзем чакаць. Дарэчы, як, калі не сакрэт, ты ставішся да творчасці сучасных беларускамоўных гуртоў?

Lesley: Стары Ольса! Жыгімонт Ваза! Кашлаты Box! А болей мне асабліва ніхто не да спадобы.

Марыся: А можна інтымнае патанне ў звязку з накірункам музыкі? Ты вернік?

Lesley: Я аніміст. Не лічу што багоў трэба удакладняць мянушкамі - яны паўсюль. Але калі выбіраць - дык толькі сваіх. […] Анімізм - гэта ня вера, а светапогляд. Практычна тое ж паганства, але бліжэй да прыроды.

Марыся: Скажы , што (ці хто) цябе натхняе на творчасць?

Lesley: Андрэй Саньнікаў.

Марыся: Зразумела, падобныя людзі з вялікай літары натхняюць на барацьбу, але творчасць, мусіць, інтымны працэс. Ці гэта не так для цябе?

Lesley: Творчасьць гэта ўвогуле не працэс, гэта нешта неадкуль - вось ты йдзеш па вуліцы і раптам прыдумваеш вершы, а спэцыяльна ніколі нічога не атрымліваецца. Дарэчы творчасьць, гэта тая ж барацьба, толькі не вонкавая.

Марыся: Напэўна, маеш рацыю. Што яшчэ, акрамя вершаў, займае важную частку твайго духоўнага жыцця?

Lesley: Вой... мне цікава вельмі шмат чаго. Я так і не адкажу. Я стала сяджу на нейкіх гістарычных сайтах. То нэаліт, то этрускі. То эсперанта (пасміхаецца). […] Сёньня у "ЖЖ" пра каменны век на Беларусі чытаў.

Марыся: Што ж, дзякуй. Дзякуй за тое, што вы ёсць менавіта тут - у Гомелі, а не ў Менску, як большасць гомельскіх талентаў!

Lesley: Насуперак!

Марыся: І апошняе: скажы што-небудзь натхняльнае на развітанне.

Lesley: Жыве Беларусь, будзьце сабой!

*http://nashkraj.info/content/view/627/1/*

# Міліцыя спыніла злачынную дзейнасць цыган-канакрадаў

Як паведаміў супрацоўнік УУС Гомельскага аблвыканкама Юрый Пількевіч, у Жлобінскім раёне за крадзеж коней затрымалі мясцовага жыхара, цыгана па нацыянальнасці. Ён першы крадзеж каня здзейсніў у далёкім 1998 годзе.



Па словах Пількевіча, у Кармянскі РАУС звярнуўся жыхар Ліцвінавічаў, у якога прапаў конь. Каня абвясцілі ў вышук. Праз некаторы час падобную паводле знешніх прыкмет жывёлінку ўгледзелі аяскоўцы Гадзілавічаў Рагачоўскага раёна. Высветлілася, што здзейсніў крадзеж жыхар вёскі Чорная Вірня Жлобінскага раёна, раней судзімы за канакрадства.

Конь жыў у людзей, якія нічога не падазравалі пра крадзеж. «Крадзенага каня падазраваны абмяняў у адной з вёсак Рагачоўскага раёна, а ўжо новага прадаў у Расію», — удакладніў супрацоўнік УУС.

Паводле яго слоў, гэты ж грамадзянін некалькі гадоў таму здзейсніў на тэрыторыі Кармянскага раёна пяць крадзяжоў коней, за што і быў раней прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Пару тыдняў таму ў Жлобінскім раёне за крадзеж коней і двух жарабятаў быў затрыманы і сын падазраванага.

*БелаПАН*

# Ігар Случак абскарджвае рашэнне аб арышце ў Вярхоўным судзе

**Жыхар Гомеля Ігар Случак звярнуўся са скаргай да старшыні Вярхоўнага суда Валянціна Сукалы.**

Грамадскі актывіст абскарджвае пастанову суда Савецкага раёна Гомеля аб прыцягненні яго да адміністрацыйнай адказнасці — арышту тэрмінам 3 сутак за нібыта здзейсненае дробнае хуліганства. Пастанова была вынесена судом 31 жніўня.

Дадзеную пастанову Ігар Случак лічыць несправядлівай. «Правапарушэння, якое мне інкрымінуюць, я не здзяйсняў, і мая віна не была даказаная ў судзе. Пастанова была вынесена толькі на паказаннях сведкі Сяргея Замая і ўнутранага пераканання суддзі», - піша старшыні ВС актывіст.

Ён просіць адмяніць дадзеную пастанову і спыніць адміністрацыйную справу. Актывіст нагадвае, што пастанову раённага суда ён абскарджваў у абласным судзе, таксама і ў старшыні абласнога суда, але гэта не дало плёну.

Ігар Случак звяртае ўвагу, што абставіны здзяйснення правапарушэння, а менавіта месца, час і спосаб здзяйснення дробнага хуліганства – розныя у міліцэйскім пратаколе і пастанове суда.

Заяўнік піша ў скарзе, што «суддзя прыйшоў да высновы, што тлумачэнні сведкі паслядоўныя, лагічныя, і не супярэчаць іншым доказам», і што «суд не бачыць падстаў, каб сумнявацца ў тлумачэнні сведкі». «Разам з тым, на судзе сведка не мог растлумачыць, дзе менавіта было здзейснена правапарушэнне», - дадае актывіст. Не было растлумачана на судзе таксама тое, як менавіта было здзейснена правапарушэнне. Заяўнік звяртае ўвагу, што і міліцыянеры, якія давалі сведчанні на судзе, блыталіся ў сваіх паказаннях.

У пастанове абласнога суда гаворыцца, што міліцыянеры неслі службу ў мікраараёне ў той час, а ў



ХАРАКТЕРИСТИКА

на выпускника ГГПТУ №35
железнодорожного транспорта
им. М.Т. Лынькова
Замая Сергея Николаевича
1990 года рождения

Замай Сергей Николаевич обучался в ГГПТУ №35 железнодорожного транспорта им. М.Т. Лынькова с 01.09.2008 по 30.06.2009 год по профессии «слесарь по ремонту подвижного состава».

За время обучения проявил себя как хороший, старательный учащийся. Основным мотивом обучения являлся познавательный интерес к выбранной профессии.

Интеллектуальный потенциал достаточно высок, что позволяло активно и творчески работать на занятиях. Обладает хорошим словарным запасом, содержательной речью, хорошей памятью.

В коллективе учащихся пользовался уважением. Отношения с учащимися по группе деловые, дружественные. Со старшими вежлив и корректен. Отзывчив на просьбу о помощи.

Принимал активное участие в жизни группы и училища, неоднократно участвовал в конкурсах художественной самодеятельности, в спортивных соревнованиях.

Сергей проявлял интерес к умственной деятельности и физическому труду.

У него хорошо развита воля, самообладание, настойчивость в достижении цели. Эмоционально уравновешен, спокоен, сдержан. Обладает хорошей быстротой восприятия.

Ответственный, дисциплинированный, самостоятельный.

Нравственные ценности полностью сформированы, не поддается влиянию других.

Приводов в милицию не было. В употреблении спиртных напитков замечен не был.

И.о. директора училища Ю.В. Дударева

Мастер п/о Л.А.Боковая

Выклікаюць Рабіновіча ў КДБ і кажуць: «Ну што вы на кожным рагу крычыце, што валюта прапала, рубель абясцэніўся, свабоды няма. Раней мы б вас расстралялі, а цяпер вось праводзім з вамі гутарку — ідзіце адсюль і больш так ніколі не рабіце». Рабіновіч выходзіць на вуліцу і кажа Пінскеру: «Абраша, у іх і патроны скончыліся».

пастанове раённага суда пішацца, што міліцыянеры выпадкова апынуліся ў дадзеным месцы.

Ігар Случак лічыць, што суд не ўлічыў фактаў, якія характарызуюць асобу сведкі Сяргея Замая, а менавіта тое, што ён быў на ўліку па справах непаўналетніх і злоўжывае алкаголем. «Суд не цікавіла – што рабіў сведка ў працоўны час у дадзеным месцы, ці не быў ён у стане алкагольнага ап'янення, ці, можа, ён стаіць на ўліку ў псіхіятрычным ці наркалагічным дыспансеры», - адзначае актывіст.

Па яго словах, у справе ёсць толькі паказанні яго і сведкі, прычым суд верыць сведку, але не верыць Ігару Случаку. Паказанні міліцыянераў не могуць быць доказам віны актывіста, таму што яны сведчылі толькі пра той факт, што да іх звярнуўся з вуснай скаргай сведка Сяргей Замай.

«Расчараваўшыся ў кваліфікацыі гомельскіх суддзяў, я сам заняўся тым, што павінны былі зрабіць яны – даследаваць усе факты па дадзенай справе. Я зрабіў запыт па месцы працы сведкі, і афіцыйны адказ гаворыць пра тое, што ў час здзяйснення мной правапарушэння Сяргей Замай быў на працы ў лакаматыўным дэпо, за пяць кіламетраў ад месца правапарушэння. Такім чынам мы бачым, што юрыдычнага факта здзяйснення мной правапарушэння не існуе», - упэўнены актывіст.

Ён дадае, што старшыня абласнога суда не звярнула ўвагу на тое, што кіраўніцтва лакаматыўнага дэпо сцвярджае, што сведка ў час здзяйснення правапарушэння быў зусім у іншым месцы.

Ігар Случак просіць Валянціна Сукалу аб'ектыўна разабрацца з яго скаргай.

*http://spring96.org/be/news/47556*



БЧ

ТРАНСПАРТНАЕ РЭСПУБЛІКАНСКАЕ УНІТАРНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА
ГОМЕЛЬСКАЕ АДДЗЯЛЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ ЧЫГУНКІ
ЛАКАМАТЫЎНАЕ ДЭПО ГОМЕЛЬ
вул. Гаспадарчая алея, 1, 246014, г. Гомель
Тэл. (0232) 95 22 08, факс (0232) 71 92 80
E-mail: tch8@gomel.rw
Р.р. 3012111630011 у Цэнтры банкаўскіх паслуг № 310
ААТ «БПС-Банк» БІК 153001369 г. Гомель
УНП 400079629 АКПА 010636523006

ТРАНСПОРТНОЕ РЕСПУБЛИКАНСКОЕ УНИТАРНОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ
ГОМЕЛЬСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ЖЕЛЕЗНОЙ ДОРОГИ
ЛОКОМОТИВНОЕ ДЕПО ГОМЕЛЬ
ул. Хозяйственная аллея, 1, 246014, г. Гомель
Тел. (0232) 95 22 08, факс (0232) 71 92 80
E-mail: tch8@gomel.rw
Р.с. 3012111630011 в Центре банковских услуг № 310
ОАО «БПС-Банк» БИК 153001369 г. Гомель
УНП 400079629 ОКПО 010636523006

13.10.2011 № 278-2-14/4574
На № ______ ад ______

Случак И.В.

На Ваш запрос сообщаем, что 26.08.2011 в период с 15.30 до 16.30 Замай С.Н находился на рабочем месте.

Заместитель начальника депо Е.В.Забелло

2 Полижаевская 95 22 29

Ў самалёце на суседніх крэслах бландзінка і адвакат. Ляцець доўга. Бландзінка моўчкі адвяртаецца і глядзіць у ілюмінатар.

Адвакат бландзінцы:

— Давайце пагуляем: я Вам задаю пытанне. Калі вы не ведаеце адказу, вы мне 5 даляраў. Потым вы мне задаяце пытанне, калі я не ведаю адказу, я вам 500 даляраў. Бландзінка згаджаецца.

Адвакат:

— Якая адлегласць ад Месяца да Зямлі?

Бландзінка моўчкі аддае яму 5 даляраў.

Бландзінка:

— Хто падымаецца ўгару на трох нагах, а спускаецца на чатырох?

Праходзіць пару гадзін. Адвакат перакапаў інтэрнэт, адказу знайсці не можа. Рабіць няма чаго, ён аддае бландзінцы 500 даляраў і пытае:

— Хто гэта???

Бландзінка моўчкі аддае яму 5 даляраў і адвяртаецца да ілюмінатара

# Начальнік службы бяспекі адкажа за абразу таксіста

***Чыноўнік КДК не заплаціў па лічыльніку.***

1 снежня суд Савецкага раёна Гомеля разгледзеў на закрытым паседжанні адміністрацыйную справу ў дачыненні да начальніка службы ўласнай бяспекі ўпраўлення дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю па Гомельскай вобласці (УДФР КДК) Алега Аляксандрава, абвінавачанага ў абразе гомельскага таксіста.

Суд прызнаў яго вінаватым у адміністрацыйным правапарушэнні — наўмысным прыніжэнні гонару і годнасці асобы (абраза, артыкул 9.3 КаАП) і падвергнуў адміністрацыйнаму штрафу ў 10 базавых велічынь (350 тыс. рублёў), перадае БелаПАН.

Пастанова суда можа быць абскарджаная або апратэставаныя праз Гомельскі абласны суд.

Аляксандраў не стаў каментаваць рашэнне суда, адмовіліся ад каментароў міліцыянты-сведкі і таксіст, які з'яўляецца пацярпелым. Па іх словах, ім забаронена размаўляць з прэсай, бо чалавек, прызнаны вінаватым у абразе, «займае высокае становішча».

Разгляд адміністратыўнай справы па артыкуле на падставе пратакола, складзенага ў дачыненні да Алега Аляксандрава, пачаўся ў судзе 16 лістапада. У той дзень чыноўнік КДК падаў хадайніцтва аб правядзенні паседжання ў закрытым рэжыме. Ён заявіў, што «незаконныя дзеянні міліцыі» зняважылі яго гонар і годнасць, а з прычыны таго, што ён мае пэўны сацыяльны статус, ён не хацеў бы, каб абставіны справы былі адданыя галоснасці. Суддзя задаволіў хадайніцтва, і справа разглядалася на закрытым паседжанні.



Яшчэ да судовага разбору міліцыянты, якія праходзілі па справе сведкамі, паведамілі, што 6 кастрычніка каля 23 гадзін два супрацоўнікі ППСМ прыбылі на Рэчыцкую шашу па заяве таксіста ў службу «102» у сувязі з тым, што кліент не расплаціўся па лічыльніку.

На месцы міліцыянты высветлілі, што пасажыр падняўся ў кватэру, і з таксістам прайшлі за ім.

Дзверы ім адкрыў мужчына, які, па словах супрацоўнікаў ППСМ, абражаў і грубіў ім, пачаў пагражаць непрыемнасцямі. Нарад міліцыі даставіў грамадзяніна ў Савецкі РАУС. Ад праходжання агляду на прадмет алкагольнага ап'янення ён адмовіўся.

Пасля здарэння, па словах міліцыянтаў, мужчына, які аказаўся начальнікам службы ўласнай бяспекі УДФР КДК па Гомельскай вобласці, напісаў заяву з просьбай прыцягнуць міліцыянтаў да крымінальнай адказнасці за перавышэнне ўлады (арт. 426 КК).

Праверку ў дачыненні да міліцыянтаў праводзіць следчы аддзел пракуратуры Гомельскай вобласці. Пакуль невядомыя вынікі праверкі. Начальнік следчага аддзела пракуратуры вобласці не каментуе інцыдэнт. Раней начальнік службы ўласнай бяспекі працаваў там следчым.

Па словах міліцыянтаў, яны ў сваю чаргу напісалі звароты ў Адміністрацыю прэзідэнта, КДБ і КДК з просьбай аб'ектыўна разабрацца ў дадзенай справе і прыцягнуць вінаватага да крымінальнай адказнасці за злоўжыванне ўладай.

*БелаПАН*

Толькі жыць сталі добра - дык грошы кончыліся.

## Гомельская ДАІ ўсталявала на дарогах макеты дзікоў, якія свецяцца

**Гомельская ДАІ ўсталявала на дарогах макеты дзікоў, якія свецяцца**

Кіраўніцтва ўпраўлення ДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама стала ініцыятарам



ўсталявання на дарогах макетаў дзікіх кабаноў, якія свецяцца.

Як паведаміла інспектар аддзялення па агітацыі і прапагандзе УДАІ Наталля Елістратава, на дадзены момант сілуэты кабаноў, зробленыя з тонкіх лістоў металу, усталяваныя каля дачнага пасёлка ва ўрочышчы Клянкі і абласнога цэнтра.

«Увесь сэнс прысутнасці макетаў кабаноў уздоўж дарогі можна зразумець толькі вечарам ці ноччу, калі святло фар ад аўтамабіляў трапляе на макет: спачатку кіроўца заўважае толькі невялікую светлую пляму, якая з кожным метрам робіцца ярчэйшай, ды яшчэ і павялічваецца ў памерах. На макеты нанесеная спецыяльная светлаадбівальная сумесь, і эфект ад такога яркага начнога звера будзе ў разы перавышаць дзеянне флікера, што прымусіць кіроўцу машынальна знізіць хуткасць», — патлумачыла сутнасць ідэі інспектар.

Кіраўніцтва мясцовай ДАІ, паводле словаў інспектара, бачыць у гэтым толькі перавагі. Па-першае, паблізу гэтага ўчастка дарогі размешчаныя дачныя кааператывы, што павялічвае інтэнсіўнасць руху пешаходаў уздоўж праезнай часткі, а таксама ўзрастае рызыка наездаў на іх. Па-другое, макеты паблізу лясного масіву папярэджваюць кіроўцаў аб магчымым з'яўленні ў гэтых месцах сапраўдных дзікіх жывёл.

*БелаПАН*

## Вучні гомельскага каледжа кралі бензін з аўтамабіляў

Два 18-гадовыя вучні Гомельскага дзяржаўнага дарожна-будаўнічага каледжа злівалі бензін проста з чужых аўтамабіляў.

Уначы ў дварах жылых дамоў з незачыненых бензабакаў двух аўтамабіляў ВАЗ-2106 яны скралі па 22 літры паліва. Крыху пазней хлопцы спустошылі бензабакі ВАЗ-21063 і ВАЗ-21011, атрымаўшы няхітрым спосабам яшчэ 40 літраў, піша livegomel.com.

Цяпер злачынцы затрыманыя. Супраць учорашніх школьнікаў заведзеныя крымінальныя справы.



*odsgomel.org*

У Менску здзейснены напад на інкасатарскі аўтамабіль. Зламыснікі адкруцілі колы, злілі бензін і ад'ехалі ў невядомым кірунку. Груз беларускіх рублёў рабаўнікоў не зацікавіў.

## На Гомельшчыне пачасціліся крадзяжы ежы з крамаў

Як паведамілі ў прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама, прадметамі злачынных замахаў становяцца адзенне, абутак і харчовыя прадукты. Да прыкладу, 4 лістапада была распачата крымінальная справа за рабаванне ў дачыненні да 24-гадовай жыхаркі Гомеля, якая ў гандлёвым цэнтры паспрабавала адкрыта выкрасці два дзіцячыя касцюмы.

Дваццацігадовы гамяльчанін 5 лістапада быў затрыманы за крадзеж мужчынскіх чаравікаў у магазіне «Мегатоп».

Жыхары вёскі Калініна Буда-Кашалёўскага раёна шляхам узлому праніклі ў буфет у суседняй вёсцы Уза і выкралі таварна-матэрыяльныя каштоўнасці.

Жыхары Нароўлі праніклі ў кафэ «Закусачная» і адтуль выкралі тавары.

У Гомелі злодзеі праніклі ў магазін з падсобнага памяшкання і выкралі прадукты харчавання і спіртныя напоі.

Жыхары Салігорска і Любанскага раёна 7 лістапада ўчынілі крадзеж з магазіна ў Жыткавіцкім раёне.

Алена Германовіч, БелаПАН

У мэтах эканомнага выкарыстання прыродных рэсурсаў на купюры 200 тысяч рублёў намалююць купюру 300 тысяч рублёў.

# Жыхар Гомеля хаваў наркотыкі ў сістэмным блоку камп'ютара

Жыхар Гомеля хаваў наркотыкі ў сістэмным блоку камп'ютара

Супрацоўнікі аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Чыгуначнага РАУС Гомеля затрымалі за незаконны абарот наркатычных сродкаў 19-гадовага мясцовага жыхара.

Як паведаміў супрацоўнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гомельскага аблвыканкама Віталь Прыстромаў, пры вобыску ў хлопца па месцы жыхарства, агледзеўшы сістэмны блок камп'ютара, супрацоўнікі міліцыі знайшлі металічную банку са здробненай раслiннай масай, а таксама газетны і два поліэтыленавыя скруткі. Па заключэнні экспертызы, малады чалавек хаваў у камп'ютары 400 грамаў марыхуаны.

24 лістапада па гэтым факце распачата крымінальная справа, вядзецца следства.

За 10 месяцаў гэтага года на тэрыторыі Гомельскай вобласці выяўлены 511 злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам наркотыкаў, з іх 110 — збыт наркатычных сродкаў. З незаконнага абароту выключана амаль 60 кг наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

Адпачынак для некаторых людзей розніцца ад працоўных дзён толькі тым, з якога кампа яны заходзяць у інтэрнэт.

# Гомельская міліцыя раскрыла крадзёж 18 тон курынага памёту

24 лістапада ўзбуджаная крымінальная справа па арт.205 ч.1 КК РБ у дачыненні да жыхара вёскі Уза.

Як усталявала следства, 48-гадовы майстар машынат-рактарнага парку РДСУП «Беларуснафта-Асобіна» 27 кастрычніка з 10.00 да 15.00 выкраў з поля, размешчанага каля вёскі Рудзінец, 18 тон курынага памёту, паведамляе прэс-служба УУС Гомельскага аблвыканкама.

Шкода склала 720 тысяч беларускіх рублёў (каля 80 даляраў). Выкрадзенае не канфіскаванае, адзначае прэс-служба. Мера стрымання не абіралася.

Навошта майстру спатрэбілася так шмат курынага памёту, не паведамляецца.

*http://www.charter97.org/be/news/2011/11/25/45073/*

# Памылкі на гомельскіх шыльдах

Каля трыццаці працэнтаў гарадскіх шыльдаў у Гомелі напісана з памылкамі. Да такой высновы прыйшла жыхарка горада Валянціна Міронава, прааналізаваўшы афіцыйныя беларускамоўныя надпісы на будынках. Самую абсурдную памылку гамяльчанка ўбачыла ў надпісе, змешчаным каля ўвахода ва ўніверсітэт.

Валянціна Міронава:

-- На адным з корпусаў Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта вісіць шыльда, дзе напісана "прыЕмная камісія". Правільна будзе "прыЁмная", бо літара "ё" у беларускай мове передаецца заўжды. Часцей за ўсё пішуць "у" замест "ў" пасля галосных. А на шыльдзе на палацы Паскевічаў-Румянцавых было пазначана: "аблвыканкОм", замест "аблвыканкАм". Але цяпер гэтую памылку ўжо выправілі.

Дзяржаўныя органы часта дапускаюць памылкі на беларускамоўных шыльдах. Напрыклад, на помніку 1000-годдзя Брэста зрабілі 75 арфаграфічных памылак.

*Радыё Рацыя, Гомель.*

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльны бюлэтэнь
"Гомельскія Навінкі снежань 2011"
Заснавальнік: Мар'я Смолава
Галоўны рэдактар: Гуан Карлас
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў
246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17,
рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2011"

e-mail: GNavinki@gmail.com
Надрукавана на Папяровай фабрыцы "ГумНо",
г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 14.
Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

